Цана 200 мк.

Год II. Вільня, 18 лютага 1923 г. № 4 (16).

# ВЫЗВАЛЕНЬНЕ НАРОДУ

## Тыднёвая Народная Газэтка

Орган П. Н. П. „Вызваленьне“ Віленскай, Наваградзкай і Палескай земляў.

| | | |
|---|---|---|
| Цана нумару 200 марак. Газэтка каштуе з паштовою перасылкаю, ў месяц 1000 марак. Без паштовай перасылкі ў месяц 800 марак. | Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Мастовая вул., 1, Народны Дом „Одродзэнe“. Тэл. 618. Рэдакцыя адчынена ад 1—2 і 4—5 г. | Абвесткі: Цэлая старонка . . . . 50.000 мк. ½ старонкі . . . . . 25.000 „ ¼ „ . . . . . 15.000 „ Дробныя абвесткі. . . па 500 „ за радок |

*Кіраўнік Рэдакцыі:* *ЛЮДЗЬВІК ХОМІНСКІ.* *Сябры Рэдакцыі:* *С. ВАЯВОДЗКІ. Ф. ГАЛАВАЧ, С. БАЛІН, В. ШАКУН, Б. ІГНАТОВІЧ. Я. ДРАЗДОВІЧ, М. ДВАРЭЦКІ, А. ШАПЕЛЬ.*



## Да усіх чытачоў „Вызваленьня Народу“

Рэдакцыя просіць, каб кожны, хто адтрымоўвае газэтку, зараз-жа выслаў (калі дасюль яшчэ не зрабіў гэтага) у Рэдакцыю да Вільні (Мастовая 1), 2 *(дзьве)* тысячы марак за першы квартал, бо іначэй перастанем высылаць газэтку.

Адначасна просім усіх Вызваленцаў, каб выпісвалі нашую газэтку для сваякоў і знаёмых, кожнаму, хто выпіша дзесяць экзэмпляраў газэткі, дык адзінаццаты будзем высылаць *дарма.* Паведамляем усіх Вызваленцаў у валасных і павятовых Сэкрэтарыятах, якія адтрымоўваюць газэтку на прадаж што ў гэтым годзе *бясплатна высылаць газэткі ім ня будзем.* Кожны сэкрэтарыят за адтрымоўваныя газэты павінен заплаціць *па сто (100) марак* Галоўнай Управе, рэшту затрымлівае для сябе.

---

Ў НЯДЗЕЛЮ, 25 ЛЮТАГА

адбудзецца

**Павятовы Зьезд**

П. Н. П „ВЫЗВАЛЕНЬЕ

**у Дунілавічах**

На зьезьдзе будзе пасол **ГАЛКА.**

---

4 САКАВІКА АДБУДЗЕЦЦА

**Павятовы Зьезд**

Сяброў і сымпатыкаў

П. Н. П. „ВЫЗВАЛЕНЬЕ“

**у Браслаулі**

Будуць паслы: **Ант. Галка і Ян Адамовіч**

Вызваленцы, зьяўляйцеся грамадою.

---

## Чаму народ прайграў.

Шмат сабе мы даклярoўвалі у гэтым новым Сойме. Думалі што як толькі будуць новыя выбары дык у Сойм выбяруць лепшых паслоў і ўсё папраўіцца ў нашай Бацькаўшчыне. Тымчасам выбары прайшлі. Новы Сойм ёсьць а Народу ў Польшчы ня лепей, а можа навет і горш зрабілася

Чаму-ж гэта так? Тож Сойм у Польшчы — гаспадар. Толькі Сойм можа папрaвіць жыцьцё працоўнага народу, а ў Сойм гэты кожны грамадзянін Польшчы, бедны ці багаты, вучоны ці нявучаны можа выбіраць. А гэтаж беднага працоўнага народу ў Польшчы найболып. Тож-ж вясковы народ у Польшчы налічвае 80% усіх жыхароў. Чаму-ж гэты народ цераз сваіх прадстаўнікоў не папраўіць Польшчы?

Таму, *што народ гэтыя выбары прайграў,* што скончыліся яны *паражэньнем* працоўных кляс ў што ў Сойме й Сэнаце каралюе Хьена — правіца. Як пабачым. з чароднага артыкульчыку ў Сойме і Сэнаце лявіца ў меншасьці і праз гэта нічога ня можа парадзіць. Але ж, чаму яна ў меншасьці, чаму гэта народ прайграў выбары, чаму 80% у народзе ня маюць 80% у Сойме?

Перш за ўсё ў гэтым вінавата *выбарчая ардынацыя* Паны эндэкі ўжо ў мінулым Сойме чулі небясьпеку страты імі ўлады Бачылі яны, што народ будзіцца, што йдзе па сваё Вызваленьне і захацелі не дапусьціць да гэтага за ўсякую цану. Раней й за ўсё выдумалі. *Сэнат* Ня гледзячы на заўзятую барацьбу ўсяе лявіцы, раней'шы Сойм устанавіў гэту зусім непатрэбную інстытуцыю, заданьнем якое мае быць затрымліваньне поступу і дэмократыі.

Баючыся, аднак, што Сэнату ня стане, эндэкі выдумалі яшчэ адну рэч дзеля з пэўненьня сабе пераваргі ў новым Сойме. Хітры ксёндз Лютаслаўскі выдумаў гэткае расьпісаньне (ардынацыю) выбараў, якое пайшло на карысьць толькі жыдом і Хьене, вельмі пакрыўдзіўшы сялянскія і рабочыя партыі; на лявіцу ўва ўсёй Польшчы выпала 4 мільёны галасоў, на Хьену толькі палова гэтага, або 2¼ мільёны аднак-жа ксяндзоўская хітрасьць зрабіла тое, што на моцы таго расьпісаньня Хьена мае *амаль што столькі-ж паслоў* (а сэн тараў навет і больш), *сколькі уся лявіца узятая разам.*

Другая прычына пройгрышу народу—яго *цемната і несьвядомасьць.* Калі б кожны селянін і рабочы ў Польшчы адд ў свой голас за свой сьпісак дык эндэкам ніякае фальшаваньне ардынацыі не памагло-б. У Сойме была-б лявіцов я большасьць, як я правіла-б Польшчаю не на панскі ўзор. Нажаль, гэтак ня было. Як мы пісалі ў нашай газэтцы ваўкі перад выбарамі апранулі на сябе авечыя скуры і пашлі на вёску па галасы Ачмуцілі людзей прыгожымі слоўцамі, зьвялі іх, выкарысталі ўсё; каго трэ было падкупілі, альбо спалілі гарэлкаю і здабылі патрэбныя галасы. Дык. калі цяпер працоўнаму народу ў Польшчы будзе блага, калі панская ўлада трывае далей, гэта ў першым радзе заслуга тых, якія пры выбарах галасавалі за адзінку, шостку, восемку, альбо дванаццатку. Усім тым, якія, цераз сваю цемнату, прыяцеля і брата ад заклятага ворага не маглі адрозьніць, цяпер увесь народ мусіць дзякаваць за сваё паражэньне й далейшую нядолю. I каб у будучыне выйграць — *трэба прасьветы, прасьветы на весцы якнайбольш*

Справа Народнае Польшчы патрабуе вялікіх ахвяраў Не стае ёй адных толькі галасоў трэба ў яе ўкласьці так сам і *шмат працы.* Трэба усьведаміць цямнейшых, вытлумачыць ім што ёсьць ужо, хто хоча дабра народу, а хто кайданы куе для яго. Трэ было рабіць тысячы сабраньняў і вечаў, пераканаваць і выясьняць мільёнам людзей.

*А працы гэтае з нашага боку было замала*

Працавалі толькі адзінкі, Галоўная Управа, інструктары, больш ідэйныя Вызваленцы.

Вясковы агул займаўся сваею звычайнаю працаю і не падтрымаў належ-

